

# ВЕСТКІ й ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

**Ню Ёрскага Адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**
Belarusan-American Association, Inc.
✉166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432
☎(718) 658-9470

**1 траўня 1997 г.** **Нр. 358**

## У НЮ ЁРКУ

**У Фундацыі П.Крэчэўскага 16 красавіка адбылася нарада Рэдакцыйнай калегіі "Вестак і Паведамленьняў". Было вырашана актывізаваць намаганьні па яднаньні беларусаў у Ню Ёрку й Амэрыцы, падаваць больш матар'ялаў пра жыцьцё эміграцыі й падзеі на Бацькаўшчыне. Гэтаксама было прапанавана палепшыць якасьць й павялічыць аб'ём выданьня.**

**20 красавіка ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага на 104-29 Атлянтык Авэню адбыўся канцэрт Данчыка - Багдана Андрусышына й братоў Зьміцера й Аляксея Яўтуховічаў. Дэклямавала вершы й вяла канцэрт артыстка Рыма Маленчанка. Імпрэза сабрала многа народу, у тым ліку нядаўніх эмігрантаў з Брукліна й Куінса. Публіка цёпла прыняла артыстаў. Данчык сьпяваў на "біс".**

**Група маладых эмігрантаў зь Беларусі мела 14 красавіка ў Службе Іміграцыі й Натуралізацыі ў Роздэйл, Ню Ёрк, інтэрвію наконт наданьня ім палітычнага прыстанку - азылю ў ЗША. Перакладчыкаў дало Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) ды Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Неабходныя дакуманты для падачы на азыль падрыхтаваў Іміграцыйны адзьдзел БАПЦ.**

## АД РЭДАКЦЫІ

Гэты нумар "Вестак" падрыхтаваны новым складам рэдакцынае калегіі. Падчас нарады, якая адбылася 16 красавіка, было вырашана , што "Весткі" мусяць мацней засяродзіцца на стварэньні інфармацыйнае прасторы для беларусаў Амэрыкі, спрыяць іх кансалідацыі й дапамагаць новым эмігрантам далучыцца да тутэйшага беларускага жыцьця. Сп. Аляксандр Міцкевіч, які так шмат зрабіў дзеля інфармаваньня суродзічаў і фактычна адзін рыхтаваў рэгулярныя выпускі "Вестак", застаецца й надалей у рэдакцыйнай калегіі. Разам мы паспрабуем гэтак-жа рэгулярна даваць навіны з беларускіх арганізацыяў Ню Ёрку й шырэй - Паўночнай Амэрыкі, паведамляць аб падзеях на Беларусі, інфармаваць пра пытаньні эміграцыі. Просім усіх, хто мае што паведаміць аб падзеях у сваёй мясьціне або арганізацыі, дасылаць адпаведную інфармацыю на адрас "Вестак".

## НОВЫ ІМІГРАЦЫЙНЫ ЗАКОН

З 1 красавіка на 30 верасьня Кангрэсым было адкладзена ўвядзеньне ў сілу новага Закону аб Іміграцыі. Новы закон будзе больш жорсткі ад папярэдняга, працэдура іміграцыі ў ЗША значна ўскладніцца.

Панікаваць і баяцца, аднак, ня трэба. Новы закон не станецца пачаткам масавых арыштаў і дэпартацый. Ведайце свае магчымасьці, свае правы, будзьце добра паінфармаваныя. Вельмі асьцярожна й абачліва вырашайце, што трэба рабіць!

Па новым законе становіцца больш складана легалізавацца й атрымаць "зялёную картку" тым, хто прабудзе ў ЗША нелегальна больш 6 месяцаў пасьля 30 верасьня 1997 г., хоць гэтая дата яшчэ не канчатковая. Закон патрабуе, каб асобы, якія хочуць атрымаць статус рэзы-дэнта, але нелегальна знаходзіліся ў Штатах пасьля 30 верасьня 1997 г., пражылі тры гады па-за межамі ЗША перад тым, як падаць заяву на рэзыдэнта, а тыя, хто нелегальна застанецца ў ЗША пасьля 31 сакавіка 1998 г. мусяць пражыць па-за Штатамі 10 год. Выключэньні й палёгкі дапушчаюцца толькі для блізкіх родзічаў грама-дзянаў ЗША й легальных рэзыдэнтаў. Таксама, калі будзе працягнута дзеяньне параграфу 245 ў законе (пакуль што ён дзейнічае да 30 верасьня 1997), то нелегал зможа застацца ў Штатах, заплаціўшы штраф і зьмяніўшы статус. Згаданы параграф дзейны толькі для тых, хто мае права на "зялёную картку" праз шлюб або пэтыцыю працадаўцы. Сытуацыя з падаўжэньнем дзеяньня параг-рафу будзе вядомая толькі ў верасьні, і таму зараз цяжка сказаць, ці трэба выяжджаць са Штатаў, каб пазьбегнуць правіла аб трохгадовым чаканьні за мяжой.

Новы закон гэтаксама адмяняе палажэньне старога

закону, паводле якога асоба, што пражыла доўгі час нелегальна магла легалізавацца праз "адклад дэпартацыі", якія яшчэ называлі "сямігадовай амністыяй". Па новым законе на гэта тогуць разьлічваць толькі тыя, хто пражыў у ЗША ня менш за 10 год, не рабіў злачынстваў і можа даказаць іміграцыйнаму суду, што дэпартацыя выкліча "надзвычайныя й вельмі моцныя пакуты" ў грамадзянаў ЗША й рэзыдэнтаў, што зьяўляюцца блізкімі родзічамі нелегала.

Нарэшце, па новым законе бежанцам, што шукаюць азылю, будзе цяжэй прыехаць у ЗША. Кожная з такіх асобаў можа быць дэпартаваная адразу з аэрапорту або іншага памежнага пункту нават без праслухоўваньня, калі ня зможа даць інспэктару INS доказаў "абгрунтаванае боязі" перасьледу. Калі доказ прадстаўлены, то гэткая асоба будзе затрымана для судовага разгляду справы. Тыя, хто ўжо знаходзіцца ў ЗША, і хоча падаваць на азыль, мусяць зрабіць гэта да 30 верасьня 1998 г., або на працягу 1 году пасьля прыезду ў ЗША, калі прыехалі пасьля 30 верасьня 1997 г.

Эміганцкія арганізацыі мусяць давесьці Кангрэсу, што новы закон занадта жорсткі й несправядлівы. Іміграны ў ЗША плоцяць падаткі й робяць свой унёсак у разьвіцьцё амэрыканскага грамадзтва. Шмат хто хоча стаць грамадзянамі, і трэба падахвоціць іх да легалізацыі, а не караць іх за жаданьне гэта зрабіць.

Напішэце да свайго кангрэсмэна, выказвайцеся ў мясцовых газэтах і радыё за зьмяненьне закону.

*Падрыхтавана паводле матэрыялаў друку.*

## ПАДЗЕІ НА БЕЛАРУСІ

**Лукашысты ў Брусэлі.** Рэжым Лукашэнкі спрабуе навязаць адносіны з арганізацыяй НАТО, імітуючы паводзіны сваіх крамлёўскіх гаспадароў пасьля іхнае паразы ў імкненьні перашкодзіць пашырэньню НАТО на ўсход. 15 красавіка дэлегацыя начале з дарадцам прэзыдэнта У.Латыпавым наведала галоўную кватэру НАТО ў Брусэлі Дарадца выказаў жаданьне кіраўніцтва аб больш цесным супрацоўніцтве Беларусі з НАТО, і намер падаць заяву аб індывідуальным удзеле ў праграме Партнэрства дзеля Міру. У прадстаўнікоў НАТО засталіся пытаньні што да сапраўдных мэтаў візыту дэлегацыі Беларусі ў Брусэль.

**Эўрапэйцы ў Менску.** Дэлегацыя з Арганізацыі па Супрацоўніцтве й Бясьпецы ў Эўропе (АСБЭ), што прыбыла ў Менск, каб даведацца пра сытуацыю ў Беларусі, не змагла 17 красавіка наведаць суд, дзе разьбіралася справа аднаго з удзельнікаў дэманстрацыі супраць рэжыму Лукашэнкі. 16 красавіка дэлегацыя сустрэлася з лідарам незалежных прафсаюзаў Генадзем Быкавым і старшынём парлямэнту Сямёнам Шарэцкім, якія заклікалі АСБЭ націснуць на Лукашэнку, каб той адмовіўся ад сваёй аўтарытарнай палітыкі. Шарэцкі пакліканы на 18 красавіка ў суд за адмову выбрачыся свае пасады старшыні парлямэнту. Як вядома, Лукашэнка прызначыў апошняга камуністычнага боса БССР А.Малафеева старшынём свайго кішанёвага, ня прызнанага ў сьвеце парлямэнту.

**Міністар замежных спраў пра адносіны з**

**Зь Вялікага Чацьвярга 24 красавіка адбываліся сьвяточныя набажэнствы ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ (401 Атлянтык Авэню) і царкве Сьв. Кірылы Тураўскага (104-29 Атлянтык Авэню), а з 26 на 27 красавіка адбыліся Вялікодныя Ўсяночныя службы**

**3 травеня 1997 г. у Гайлянд Парк (Нью Джэрзы) адбылася сустрэча эміграцыі з кіраўніком Беларускай сэкцыі Радыё Свабода сп. В.Станкевічам. Госьць распавёў пра сытуацыю Беларусі й разьвіцьцё незалежных сродкаў масавай інфармацыі, у т.л. радыё. У сустрэчы бралі ўдзел сябры Ню Ёрскага аддзелу БАЗА.**

## ДРУК ЭМІГРАЦЫІ

**Выйшаў вялікодны нумар часопіса "Царкоўны пасланец", які выдае парафія Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ (Бруклін). Часопіс выйшаў на 16 бачынах. Зьмест - царкоўна-рэлігійны й грамадзкі.**

**У Таронта (Канада) пабачыў сьвет вялікодны выпуск бюлетэню "Царкоўныя навіны". Зьмешчаныя вялікодныя матэрыялы, інфармацыі з царкоўна-рэлігійнага жыцьця ў сьвеце й у Беларусі. Бюлетэнь выдае Царква Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ.**

**У Таронта выйшаў квартальнік Згуртаваньня Беларусаў Канады "ІНФА-ЗБК" (№ 7, сакавік). Выданьне інфармуе пра сьвяткаваньне 25 сакавіка ў Таронта й Мантрэалі. Падаецца хроніка падзей у Беларусі, рэфлексыі з жыцьця эміграцыі. Усе**

**ЗША**. Іван Антановіч заклікаў ЗША не рабіць "пасьпешлівых высноваў" пра Беларусь. Ён спрабаваў запэўніць журналістаў, што ягоны ўрад вельмі зацікаўлены "пазьбегнуць непаразуменьня" з ЗША. Антановіч заявіў, што Амбасадар ЗША ў Менску Кэнэт Ялавіц хутка вернецца на Беларусь з лістом да прэзыдэнта Лукашэнкі. Ялавіц у сакавіку пакінуў Беларусь пасьля таго, як рэжым Лукашэнкі выслаў зь Беларусі першага сакратара амэрыканскай амбасады С.Аляксандрава пад прэтэкстам, што той нібыта агент СІА й завадатар дэманстрацыяў у Менску супраць рэжыму.

**Ім хлеба ня трэба, суботнік давай!** Рэжым Лукашэнкі паведаміў, што 19 красавіка каля 4 мільёнаў беларусаў узялі ўдзел у суботніку (дні дабраахвотна-прымусовай працы). Адзін з атрыбутаў камунізму, суботнік, разам з камуністычнымі гэрбам і сьцягам, сьвяткаваньнем Кастрычніцкай рэвалюцыі й усілаўленьнем "вялікай ацечасьцьвянай вайны" актыўна скарыстоўваецца рэжымам як супрацьвага ідэям незалежнасьці й дэмакратыі на Беларусі. Імкнучыся быць падобным да Леніна, які падняў бервяно на першым суботніку, Лукашэнка асабіста імітаваў фізычную працу на будаўніцтве менскай падземкі. Назаўтра ён выляцеў у турнэ па азіяцкіх краінах. Лукашэнка наведае Паўдзённую Карэю, Кітай і В'етнам, каб прыцягнуць інвэстыцыі й навязаць палітычныя кантакты з гэтымі краінамі, дзе пры ўладзе, акрамя Паўдзённай Карэі, знаходзяцца камуністы.

**Беларуская Народная Царква.** 20 красавіка ў Слоніме была заснавана 4-я парафія БНЦ на Беларусі. Першае набажэнства ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага па-беларуску адслужыў а.Пётра зь Менску.

**Расея нам дапаможа!** 23 красавіка група прадстаўнікоў дэмакратычнае апазыцыі Беларусі падала ў амбасаду Расеі ў Менску Зварот да прэзыдэнта РФ Б.Ельцына. Дэмакратычная апазыцыя крытыкуе палітыку Лукашэнкі й заклікае "сьмелага" й, як пішацца ў звароце, "здольнага прымаць правільныя рашэньні" Ельцына прадухіліць усталяваньне ў Беларусі дыктатуры й анэксыю краіны. Зварот падпісалі кіраўнік кааліцыі дэмакратычных арганізацый Г.Карпенка, ад імя Аб'яднанае грамадзянскае партыі С.Багданкевіч, ад імя БНФ Ю.Хадыка, М.Статкевіч (Грамада), прадстаўнікі Партыі здаровага розуму, Бел. саюзу афіцэраў, Бел. асацыяцыі журналістаў, пісьменьнік В.Быкаў, віцэ-прэзыдэнт Акадэміі Навук Р.Гарэцкі ды інш. У Звароце ўказваецца, што пытаньне інтэграцыі з Расеяй можа абмяркоўвацца толькі пасьля ўсталяваньня ў Беларусі дэмакратыі.

**Лукашэнка супраць Дж. Сораса.** 28 красавіка Беларускаму Фонду Сораса быў прадстаўлены акт праверкі Дзярж. падаткавага камітэту РБ. Акт абвінавачвае Фонд у шэрагу парушэньняў у працы й прад'яўляе Фонду штраф у памеры 3 млн. даляраў. Бел. Фонд Сораса не пагадзіўся з вынікамі праверкі. Канфлікт застаецца не ўрэгуляваны.

**Вачыма Эўропы.** 29 красавіка ЭўраСаюз выдаў заяву, у якой выказаў занепакоенасьць хваляй арыштаў удзельнікаў дэманстрацый і апазыцыі. У заяве выказваецца сумнеў, што да запраўдных намераў кіраўніцтва Беларусі супрацоўнічаць з Эўрапэйскім Саюзам й рэфармаваць палітычную сыстэму паводле міжнародных нормаў правоў чалавека й грамадзянскіх свабод. ЭўраСаюз прызначыў сваім прадстаўніком у Беларусі сп. В.Костку.

**Выбух.** 30 красавіка на газаправодзе каля вёскі Літва Узьдзенскага р-ну ( 60 км ад Менска) адбыўся выбух. Пашкоджана 20 мэтраў трубы. Вялікае полымя трывала 2 гадзіны, на дзесяткі мэтраў выгарэў навакольны лес. Адказнасьць за выбух узяла на сябе невядомая арганізацыя "**Беларускае вызваленчае войска**". Створана афіцыйная камісыя па вывучэньні прычынаў выбуху.

**Першамай пад беларускім сьцягам.** Сьвята працоўных у Менску адбылося ў атмасфэры процістаяньня. Афіцыйны сход сабраў каля 20 тыс. ахвотных і прыгнаных па загадзе "працоўных" з чырвонымі сьцягамі й з насталгіяй па СССР, якія славілі мінулае й прэзыдэнта. Бел. сацыял-дэмакратыя сабрала на апазіцыйны мітынг пад бел-чырвона-белымі сьцягамі каля 15 тыс. чал. На мітынгу выступіў лідар сацыял-дэмакратаў М.Статкевіч. "***Мы не гуляем у шоў, якое арганізаваў гэты лысы клоўн***" - сказаў ён пра намаганьні Лукашэнкі выкарыстаць сьвята ў сваіх мэтах. Пасьля мітынгу М.Статкевіч быў засуджаны на 10 сутак арышту.




**Магілёўскае сьвята.** Напярэдадні сьвята 1 травеня гарадзкія ўлады Магілева не дазволілі дэмакратычнай і нацыянальнай апазыцыі выйсьці на вуліцы сьвяточнай калёнай. Аднак, калі на галоўнай плошчы імя Леніна сабралася на афіцыйнае сьвята каля 3 тыс. людзей, раптам над натоўпам залуналі

бел-чырвона-белыя сьцягі й антыпрэзыдэнцкія лёзунгі. Выступоўца ад улады разгубіўся ды пачаў нязграбна адстойваць "славянскую еднасьць" й назваў апазыцыянэраў "не славянамі". Прыкладна палову сабраных пацягнула за сабой калёна дэмакратаў на галоўнай вуліцы горада - Першамайскай. Пасьля шэсьця кіраўніка абласное арганізацыі БНФ А.Фёдарава выклікалі ў міліцыю.

**Азыль дыплямату**. Супрацоўнік Амбасады РБ у Францыі Уладзімер Палупанаў зьвярнуўся да ўладаў Францыі з просьбай палітычнага прытулку. Просьба была задаволена. Сп. У.Палупанаў працаваў на адказных пасадах у міністэрстве замежных справаў Беларусі ад пачатку 90-х гг. Ён жа браў актыўны ўдзел у беларускім жыцьці, дапамагаў стварэньню музэя ведамага дзеяча бел. эміграцыі Язэпа Гладкага ў ягонай роднай вёсцы на Лагойшчыне.

## *АБ'ЯВЫ Й ПАВЕДАМЛЕНЬНІ*

Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня аказвае дапамогу ўдзельнікам дэмакратычнага й нацыянальнага руху на Бацькаўшчыне, якія знаходзяцца ў ЗША й жадаюць застацца на сталае жыхарства.
Адрас для лістоў:
Belarusan-American Association
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432
Тэл. 718-658-9470

!!!
Усіх, хто ведаў
**Браніслава Садоўскага** з Клічава, 1922 г.нар., просьба адгукнуцца па нумары
718-296-1458
???

**Газэта "Наша ніва" (Менск).**
*Па пытаньні падпіскі зьвяртацца па тэл.* (718) 998-0069 *або E-mail -* asemukha@pipeline.com

**ПЕРАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЕ СЭКЦЫІ РАДЫЁ СВАБОДА** (ПРАГА)

*Кожнага дня на кароткіх хвалях:*

| **Час** (New York) | **Частоты** |
|---|---|
| 23.00—24.00 | 6065, 7295, 9750 |
| 13.00—14.30 | 6105, 7295, 11725 |
| 15.00—16.30 | 6105, 7295, 9750 |

*(З 30 сакавіка да 25 кастрычніка 1997 г.)*

*Клюб* "**СПАТКАНЬНЕ**" *запрашае ўсіх беларусаў стаць яго сябрамі. Асаблівую ўвагу зьвяртаем на адзінокіх людзей усіх узростаў. Магчыма ў нашым клюбе Вы сустрэнеце свайго лепшага сябра або сяброўку.*
НАШ АДРАС:
**SPATKANNIE**
**104-29 Atlantic Avenue**
**Richmond Hill, N.Y. 11418**
**(718) 847-4123**

**ДАПАМАЖЫЦЕ**
**ВЫПУСЬЦІЦЬ КАСЭТУ!**
БЕЛАРУСКІЯ ПЕСЬНІ Ў ВЫКАНАНЬНІ
**ВАЛЯНТЫНЫ ПАРХОМЕНКІ, АЛЕСЯ Й ВОЛЬГІ КАЗАКОЎ**
ПРОСІМ ВАШЫЯ АХВЯРЫ ДАСЫЛАЦЬ :
L. YUREVICH,
1673 W 2ND ST., 2 FL.
BROOKLYN, N.Y. 11223
TEL. (718) 645-9436
ПАПЯРЭДНІ КОШТ КАСЭТЫ $15. КАСЭТА БУДЗЕ ВЫДАДЗЕНА ПАСЬЛЯ ЗБОРУ ДАСТАТКОВАЕ СУМЫ ГРОШАЙ. ІМЁНЫ ФУНДАТАРАЎ $ 100 І БОЛЬШ БУДУЦЬ ВЫДРУКАВАНЫЯ НА ВОКЛАДЦЫ КАСЭТЫ.

Напрыканцы чэрвеня ў ваколіцах Ню Брансуіка адбудзецца сьвяткаваньне
**КУПАЛЬЛЯ!**
Сачыце за інфармацыяй!

**ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ НЮ ЁРСКАГА АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА Й ПРЫХІЛЬНІКІ!**

***Вы пазнаёміліся з першым нумарам абноўленых "Вестак й паведамленьняў". Каб зрабіць выданьне лепшым й больш апэратыўным, нам патрэбная Ва-шая падтрымка й удзел.***

***Чакаем Вашых пажаданьняў, парадаў і грашовых ахвяраваньняў. Спадзяемся на Вашую далейшую зацікаўленасьць й падтрымку дзеля нашай агульнай справы й ідэі.***

**РЭДАКЦЫЯ Й КІРАЎНІЦТВА АДЗЬДЗЕЛУ**